№9 (18)
2000г.
верасень

# ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ

Грамадска - палітычная, асветніцкая газета

Выдаецца са жніўня 1996 г.

Кошт свабодны

**Да 900 - годдзя Барысава.**

Ў распараджэнні рэдакцыі нашай газеты маюцца сенсацыйныя, невядомыя раней звесткі, якія датычацца заснавання ў 1102 годзе Барысава. Яны будуць абвешчаны ў адным з сёлетніх нумароў нашага выдання.

## Малады юбілей

Гісторыя падрыхтоўкі педагагічных кадраў у Барысаве пачалася яшчэ ў мінулым стагоддзі. У 1914 годзе тут адкрылі педагагічную семінарыю, якую пасля рэвалюцыі перайменавалі ў педтэхнікум, а яшчэ пазней - у педвучылішча. Закрылі яго ў 1957 годзе і ўспомнілі аб тым, што некалі ў горадзе існавала надзейная "кузня" педагагічных кадраў, толькі ў 1980-м.

Вось гэты малады юбілей свайго другога нараджэння калектыў Барысаўскага педагагічнага каледжа і святкаваў у пачатку верасня.

Цяпер педкаледж з'яўляецца шматпрофільнай навучальнай установай, мае цесныя сувязі з вышэйшымі навучальнымі установамі рэспублікі і па спецыяльных мэтавых праграмах накіроўвае туды на вучобу сваіх выпускнікоў.

Дырэктар гэтай навучальнай установы Ларыса Іванаўна Зяленская лічыць, што адным з асноўных здабыткаў 20-гадовай карпатлівай работы з'яўляецца высокапрафесіянальны і творчы выкладчыкі калектыў, якому, як правіла, не даводзіцца чырванець за сваіх шматлікіх выпускнікоў.

*А.Турко*



Будаўніцтва царквы каля вёскі Барань. Фота 1999г.

Апошнім часам на Барысаўшчыне шмат будуецца новых цэркваў. Гэта добра. Але які лёс старых тутэйшых храмаў?

*(Працяг тэмы чытайце на стар. 3)*





## Ёсць падлодка! Пакуль, праўда, мадэль...

Дзеці і падлеткі, якія з задавальненнем займаюцца ў гуртках Цэнтра тэхнічнай творчасці навучэнцаў, не перастаюць здзіўляць сваімі незвычайнымі творчымі знаходкамі і дасягненнямі. Вось і нядаўна ўдзельнікі судамадэльнага гуртка разам са сваімі кіраўнікамі Уладзімірам Пятровічам Якубенкам і Уладзімірам Міхайлавічам Палшковым выканалі дакладную мадэль падводнай лодкі тыпу "Тайфун". Гэта субмарына таго ж класу, што і сумна вядомы атамаход "Курск".

Мадэль падлодкі з'яўляецца самай арыгінальнай не толькі ў калекцыі юных барысаўскіх судамадэлістаў, але і ў рэспубліцы. Яна перш за ўсё сведчыць аб высокім ўзроўні творчай работы, якая наладжана ў гуртку. Першае месца барысаўскіх гуртоўцаў у нядаўна прайшоўшай 5-й спартакіядзе школьнікаў Мінскай вобласці па тэхнічных відах спорту - заслужаная ацэнка іх дасягненняў.

*А.Турко*

## Навуковая і даследчая праца вучняў

У метадычным кабінеце гарадскога аддзела адукацыі ёсць што паглядзець. Але зацікавілі ў першую чаргу вучнёўскія працы, бо гэта тое новае, чаму сталі ўдзяляць увагу ў школах горада не так і даўно. Кожны год праводзяцца навуковыя канферэнцыі, дзе на суд аўтарытэтнага журы выносяцца напрацоўкі, якія выканалі вучні пад кіраўніцтвам настаўнікаў.

Вось перад намі з густам аформленая праца вучаніцы 10 "В" класа гімназіі №2 Касцюкевіч Вольгі. Цяпер дзяўчынка вучыцца ўжо ў 11 класе і, як паведамілі нам, таксама займаецца даследчыцкай дзейнасцю. Назва даследавання "Эканамічны патэнцыял г.Барысава". Школьніца вывучыла і апісала 42 заводы і фабрыкі нашага горада. Да таго ж у сваіх пошуках Вольга ўмела выкарыстала беларускую частку сеткі "Інтэрнэт".

Яшчэ адна цікавая і карысная праца выпускніцы школы №15 Дамарат Кацярыны "Рацыянальнасць размяшчэння хімічных прадпрыемстваў г.Барысава". У даследаванні боль і трывога за стан нашай прыроды. Хацелася б, каб найбольш дарослых пазнаёміліся з гэтай працай, бо раўнадушша губіць нас, выклікае трывогу за лёс будучых пакаленняў. Прачытаўшы, мы даведваемся, што экалагічна шкоднымі прадпрыемствамі з'яўляецца крыштальны завод, гумава-тэхнічных вырабаў, пластмасавы, фанерна-запалкавы і г.д. Да таго ж вучаніца выявіла, што ў горадзе на працягу года пераважаюць вятры паўночна-заходняга, паўднёва-заходняга і заходняга накірункаў. А з гэтага вынікае, што заводы павінны былі б знаходзіцца на ўсходнім баку горада. А ў нас?

Карысную навукова-даследчую працу вядуць вучні школ горада.

*М.Пучыла*

## Свае запалкі

Пра барысаўскія запалкі народ ужо склаў нават анекдоты. То яны ломяцца, то яны не гараць, то "страляюць" цэлымі сернымі галавешкамі.

Пры гэтым усё ж несправядліва абазваць наўмекамі працаўнікоў прадпрыемства "Барысаўдрэў", бо сваю прадукцыю яны і за мяжой прадаюць. Зрабілі б, кажуць, і запалкі лепшымі, каб мелі для таго заўсёды якасную сыравіну. Яе сёння хоць і не цяжка знайсці, але цана якаснай драўніны, якая, бясспрэчна, увойдзе і ў сабекошт прадукцыі, вельмі ж "кусаецца".

Выхад на прадпрыемстве шукаюць у арганізацыі больш эфектыўнага кантролю за якасцю прадукцыі. Толькі ж пакуль гэта не зусім удаецца, бо шурпатыя барысаўскія запалкі па-ранейшаму падносяць спажыўцу "сюрпрызы".

*А.Турко*

## Прадавец, у якога купляюць

Мы гадамі імкнемся да цывілізаванага гандлю. Праўда ў масавым маштабе гэта ніяк не атрымліваецца, але вось у асобных выпадках абнадзейваючыя вынікі ўсё ж ёсць. Конкурсы прафесійнага майстэрства сярод работнікаў гандлю якраз і праводзяцца для таго, каб гэтыя асобныявыпадкі яскрава высвятляць і рэкамендаваць іншым у якасці лепшых прыкладаў.

Гарадскі конкурс на лепшага прадаўца прамысловых тавараў не быў выключэннем з гэтай чарады. Перамагла ў ім прадавец Дома гандлю Марына Кавальчук. Акрамя дадзеных ад прыроды якасцей - добразычлівасці і ветлівасці, Марыне спатрэбіліся для перамогі шырокія веды, уменне імі карыстацца, а яшчэ - хуткая рэакцыя на абставіны ў гандлёвай зале і цудоўная схільнасць да імправізацыі.

*А.Турко*







*Падчас сёлетняга фестывалю бардаўскай песні на Брылёўскім полі*

# Шматгалоссе сэрцаў

Ініцыятарам 1-га рэгіянальнага фестывалю клубаў аўтарскай песні "Шматгалоссе", які адбыўся на Брылёўскім полі, з'яўляецца кіраўнік барысаўскага клуба аўтарскай песні Марына Клімко.

Ідэя наладжвання падобнага свята зарадзілася ў красавіку 1999 года ў Раубічах пад час турзлёту, прысвечанага Аляксандру Чуланаву. Тады разам з "ветэранамі" клуба "Ветразь" М. Клімко рашыла адрадзіць традыцыю 12-ці гадовай даўнасці – апошні раз фестывалі рэспубліканскага маштабу праходзілі на Барысаўшчыне ў 1987-1988 гадах.

Фестываль 2000 года афіцыйна меў статус рэгіянальнага, але па маштабу ахопу не ўступіў ранейшым. Па ранейшаму госці прыехалі з Мінска, з усіх куткоў Беларусі, з Масквы. У журы ўвайшлі Вольга Залеская, Надзея Кудрэйка, Алег Красата, Ігар Сельчанка, асацыяцыя "32-е жніўня". Арганізацыя свята, на здзіўленне, прайшла без збояў, і славутае Брылёўскае поле прыняло каля 400 гасцей.

Фестываль удаўся. Бардаўская песня гучала тры дні і дзве ночы. Адгрымела цырымонія ўзнагароджання, і стомленыя, але задаволеныя пераможцы раз'ехаліся хто ў Гомель, хто ў Магілёў, хто ў Мінск. Для Марыны Помасу- адной з барысаўскіх пераможцаў – гэты фестываль пад адкрытым небам стаў першым. Марына піша і выконвае аўтарскія песні каля пяці гадоў. Яна і перамагла ў намінацыі "За лепшую аўтарскую работу". Па словах Марыны, у бардаўскай песні можна знайсці ўсё. Няма надвор'я, настрою, стану душы, якія не магла б выразіць аўтарская песня, над якой часам трэба пасядзець, паразважаць. Так Марына і спявае: для кожнага настрою, пачуцця, думкі ёсць свае словы і музыка, свая зіма і лета, восень і вясна. Марына прызналася, што на фестывалі адпачыла душою.

Хацелася б верыць, што фестываль "Шматгалоссе" стане добрай традыцыяй для Барысаўшчыны.

*С.Бегіян*

# Турнір у Барысаве

З першага па трэцяе верасня на гарадском стадыёне адбыўся трэці рэспубліканскі турнір па тэнісу на прызы алімпійскага фонда горада Барысава. У турніры прымалі ўдзел мацнейшыя тэнісісты Беларусі і краін СНД.

Удзельнікі спаборніцтва былі падзелены на тры ўзроставыя катэгорыі і парныя разрады. Барысаў быў прадстаўлены выхаванцамі тутэйшага тэніснага клуба Аляксандрам Лагвіенка, Максімам Савіным і Іванам Паўлаўцом.

Пераможцамі турніру ў сваіх узроставых катэгорыях сталі: М.Івашчанка з Калінінграда, В.Вайтовіч і В.Рубінчык з Менска. У парным разрадзе перамаглі М.Івашчанка і В.Рубінчык.

Прадстаўнікі нашага горада ў парным разрадзе занялі трэцяе месца.

*С.Чарнуха*

# Футбольны агляд

Экватар футбольнага турніру сярод каманд вышэйшай лігі чэмпіянату Рэспублікі Беларусь даўно перадолены. Наступіў час падвесці некаторыя вынікі. Як можна ацаніць выступленне клуба БАТЭ? Адназначную ацэнку выступлення нашай каманды даць цяжка. Няроўную ігру ў першым крузе можна патлумачыць стратай многіх ігракоў у мінулым сезоне. Прычым з каманды выбылі футбалісты, якія гралі вядучыя ролі ў сезоне-1999, у якім, як вядома, барысаўцы сталі чэмпіёнамі. Сярод страт значыліся Скрыпчанка, Савосцікаў, Баранаў, Арзамасцаў і другія. У выніку каманда пацярпела некалькі паражэнняў нават ад аўтсайдэраў. У выніку першага круга - сціплае 7 месца.

Для нагляднасці прывядзем верхнюю частку табліцы розыгрышу пасля 1 круга.

| | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Славія | 15 | 11 | 3 | 1 | 33-14 | 36 |
| Шахцёр | 15 | 9 | 4 | 2 | 21-10 | 31 |
| Гомель | 15 | 9 | 1 | 5 | 31-19 | 28 |
| Дынама (Мінск) | 15 | 8 | 4 | 3 | 24-10 | 28 |
| Тарпеда (МАЗ) | 15 | 7 | 7 | 1 | 21-10 | 28 |
| Нёман (Белкард) | 15 | 8 | 3 | 4 | 29-12 | 27 |
| БАТЭ | 15 | 7 | 3 | 5 | 26-19 | 24 |

Дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што крызіс у камандзе быў перааодолены ўжо ў другой палове першага круга. З 10 па 12 тур каманда апускалася аж на 10 радок табліцы.

З пачатку другога круга БАТЭ атрымаў 6 перамог запар і ўварваўся ў тройку лідэраў. Рэзкі ўзлёт каманды можна патлумачыць вялікім патэнцыялам каманды Юрыя Пунтуса, самаахвярнай ігрой маладых ігракоў, вяртаннем з ЦСКА Скрыпчанкі, выздараўленнем Лісоўскага. Урэшце можна даволі смела прагназаваць, што БАТЭ не пакіне тройку лідэраў і зойме месца не ніжэй трэцяга.

Футбольная каманда "Гайна", якая складаецца з мясцовых ігракоў, даволі ўпэўнена выступае ў першынстве Мінскай вобласці.

Першыя восем тураў "Гайна" правяла на адным дыханні і атрымала перамогі ва ўсіх гульнях. Здавалася, у каманды не будзе праблем і ў наступных гульнях, аднак нечаканае (як аказалася, адзінае ў 1-ым крузе) паражэнне ў 9 туры.

Прыводзім верхнюю частку турнірнай табліцы.

| | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| "Гайна" Барысаўскі раён | 11 | 10 | 0 | 1 | 36-7 | 30 |
| "Звязда" М.Горка | 11 | 7 | 2 | 2 | 21-12 | 23 |
| "Камунальнік" Клецк | 11 | 6 | 3 | 2 | 29-14 | 21 |

Другі круг "Гайна" пачала гэтак жа ўпэўнена, як і першы. Пасля 14 тураў адрыў лідэра ад другой каманды ("Камунальнік"-Клецк) складаў ужо 10 ачкоў. Праўда, у 15 туры каманда церпіць паражэнне з лікам 2:3 ад "Левады" (Дзяржынск), потым ад "Меліяратара" (Копыль) з лікам 0:1. Відаць па ўсім, што каманда стамілася і перажывае пэўны псіхалагічны крызіс.

Аднак можна смела прагназаваць, што турнір "Гайна" давядзе да перамогі, нягледзячы на цяжкасці і праблемы, з якімі прыходзіцца сутыкацца таленавітым футбалістам.

*С.Чарнуха*




# Аб поспехах і праблемах установ адукацыі горада

Менавіта такая інфармацыя прагучала з вуснаў загадчыка аддзела адукацыі Бойкі А.А. на пленарным пасяджэнні педагогаў горада. І хоць афіцыйна тэмай форума была тэма "Павышэнне якасці адукацыі праз сучасныя тэхналогіі" - назва гэтага артыкула ніякім чынам не разыходзіцца з сутнасцю. Не ставячы сабе мэтай падрабязную перадачу выступу загадчыка аддзела, коратка назавём набыткі сістэмы адукацыі горада па ўвядзенню ў жыццё новых педтэхналогій і яе некаторыя праблемы. Большасць дашкольных дзіцячых устаноў горада імкнецца да працы па новых эфектыўных педтэхналогіях. "Мантасоры-педагогіка" знайшла сабе месца ў працы васьмі дзіцячых садоў. Вопыт Н.М.Крыловай "Дзіцячы садок радасці" выкарыстоўваецца ў 7 ДДУ. Экалагічнае выхаванне па праграме А.Петрыкевіч здзяйсняецца ў 28 садках. 22 дашкольныя ўстановы арганізуюць выяўленчую дзейнасць выхаванцаў па праграме В.Данілава. Інтэнсіўнае навучанне дзяцей ранняму чытанню па праграме А.В.Зайцава праводзіцца ў 5 садках.

Ад дашкольных устаноў не адстаюць школы. Многія з іх арыентуюцца ў працы на новую тэхналогію "Крок за крокам". 33 падрыхтоўчыя класы школ асвойваюць гэтую тэхналогію. А яна базіруецца на мікрагрупавым і індывідуальным падыходзе да навучання. Адышлі ад традыцыйнай і працуюць па сістэме Д.Б.Эльконіна - В.В.Давыдава педагогі СШ № 2,7,9,11,12,22. Па сістэме Л.В.Занкова вядуць навучанне ў СШ № 12, гімназіі №3. У горадзе 31 пачатковы клас працаваў як клас развіваючага навучання. У 1999-2000г.г. 11 пачатковых класаў былі класамі паскоранага навучання.

У якасці іншых набыткаў гарадской адукацыі можна было б назваць адносіны да дзяцей з павышанымі здольнасцямі і дзяцей з псіхафізічнымі недахопамі. Так у мінулым навучальным годзе для першай катэгорыі вучняў у 12 школах былі створаны 100 класаў з паглыбленым вывучэннем прадметаў і 74 профільныя класы. Для другой катэгорыі дзетак працавалі 29 класаў ЗПР і 6 класаў інтэграванага навучання.

Напрыканцы артыкула да месца напомніць пажаданні загадчыка аддзела А.А.Бойкі: захаваць дасягнутае і не спыняцца на гэтым, не згубіцца ў калькасці тэхналогій, а знайсці сваю найбольш эфектыўную, табе прыдатную.

Але пра самыя галоўныя праблемы школы і настаўніцтва гаварылі ў калуарах палаца культуры самі педагогі - зусім нізкі ўзровень аплаты педагагічнай працы і мізэрнае фінансаванне ўстаноў адукацыі. І, як следства, - недахоп педкадраў.

Хачацца верыць, што праблемы адукацыі хвалююць не толькі педагога.

*М.Пучыла*



# На цяністай вуліцы

Па ініцыятыве мясцовай улады ў горадзе распачата і, па ўсім бачна, будзе даведзена да канца вельмі важная справа па стварэнню органаў самакіраўніцтва па месцы жыхарства.

Як вядома, добраўпарадкаванне і санітарны стан вуліц з прыватнай забудовай пакідаюць жадаць лепшага. За навядзенне парадку прапанавана ўзяцца самім жыхарам. Для гэтага паўсюдна ў горадзе абраны старшыні вуліц і кварткомаў, праведзены сходы жыхароў. Дзякуючы гэтай рабоце, існаваўшая ўжо некалі грамадская сістэма, зноў запрацавала. Арганізаваны вываз смецця, старыя звалкі, сумесна з аб'яднаннем жыллёва-камунальнай гаспадаркі вырашаюцца пытанні добраўпарадкавання тэрыторый.

У пачатку верасня старшыні мясцовых органаў самакіравання атрымалі афіцыйныя пасведчанні. Сярод іх ужо вызначыліся і свае лідэры. Непераўзыдзенымі ўмельцамі самаарганізацыі быту лічацца жыхары ваенных гарадкоў, якія прывыклі спадзявацца ў такіх справах толькі на сябе.

*А.Турко*





Будынак барысаўскага чыгуначнага вакзала, які быў узведзены ў 1871 годзе

Вакзал у Барысаве, які пабудаваны ў 1914 годзе

Сучасны стан старога будынка чыгуначнага вакзала

# Вакзал - твар горада



Першае, што бачаць большасць з тых, хто прыязджае ў любы горад - гэта будынак вакзала. Па яму мяркуюць аб горадзе. Без перабольшвання можна сказаць, што вакзал - гэта твар горада. Які ж ён быў раней у Барысаве?

Самы стары - двухпавярховы драўляны будынак вакзала быў пабудаваны ў 1871 годзе адначасова з чыгункай. Праіснаваў ён да пачатку ХХ стагоддзя. Яму на змену ў 1914 годзе быў узведзены цагляны двухпавярховы будынак, які існуе і зараз. Першапачаткова на яго першым паверсе размяшчаліся ўсе службова - тэхнічныя памяшканні. На другім паверсе жылі работнікі станцыі і фінансава - камерцыйны рэвізор. Да муравага будынка быў прыбудаваны аднапавярховы драўляны, у якім мясціўся рэстаран. Гэты будынак да нашага часу не захаваўся.

*А.Барэвіч*

# Праблемы жанчын. Асабісты вопыт і назіранні

Гісторыя чалавецтва ведае перыяды, калі галоўную ролю ў жыцці чалавечага роду адыгрывалі жанчыны – матрыярхат. Было гэта тады, калі праблема падаўжэння роду дамінiравала над астатнімі.

Пачуццё кахання, пяшчоты, вернасць, ахвярнасць, дараванне, клопаты ўласцівы жаноцкай сутнасці і развіты, генетычна закладзены ў сілу яе ўнікальнай здольнасці быць маці.

Мужчыны – асобы больш агрэсіўныя, уладалюбівыя, жорсткія. Невыпадкова сярод пацыфісцкіх рухаў, арганізацый у абарону экалогіі няма назваў "Мужчыны супраць вайны" ці "Мужчыны за экалогію", а слова "жанчына" сустракаецца і ў саміх назвах, не гаворачы аб складзе членаў гэтых арганізацый – пераважна жанчын.

У сілу функцыі дзетараджэння, выношвання плода, выхаванню дзяцей жаночы арганізм больш моцны, вынослівы, чым мужчынскі. Жанчыны ад прыроды больш гнуткія ў рашэнні тактычных пытанняў. У рэшце рэшт ролі мужчын і жанчын у сацыяльным жыцці фактычна зраўняліся. Дзякуючы гэтым сваім вартасцям, жанчыны робяцца ўсе больш самастойнымі. Глядзіш, хутка і дзяцей стануць нараджаць без удзелу мужчын. Па многіх палітычных і эканамічных прычынах мужчыны становяцца ўсе больш інфальтыўнымі.

Аднак праблемам жанчын удзяляецца вельмі мала ўвагі. Жанчына – жонка, маці, захавальніца дамашняга цяпла, аб'ект сексу. Толькі і ўсяго. Часам здаецца, быццам грамадства – гэта істота мужчынскага полу, настолькі часта эксплуатуецца паняцце "жанчына" як аб'ект пажадлівасці.

Некалькі месяцаў таму мне ў рукі трапіла цікавая дыяграма. Яна ўяўляла сабою круг, разбіты на сектары. Кожны сектар абазначаў які-небудзь від насілля над жанчынай. Вывучыўшы дыяграму, я падумала, што ў сваім жыцці я падверглася ў той ці іншай ступені кожнаму віду насілля з пазначаных на дыяграме. Думаю, што падобнае перажылі большасць жанчын.

Хацелася б спытаць у журналістаў і кіраўнікоў СМІ: няўжо можна дабіцца станоўчых эмоцый у чытачоў, выкарыстоўваючы толькі негатыўныя факты нашага жыцця?! "Чарнуха" на старонках газет раздражнае і азлабляе. Прачытаеш газету – жыць не хочацца! Жаночы алкагалізм, кінутыя дзеці, ранняя цяжарнасць. Усюды адны праблемы і няшчасныя людзі. Калі жанчына лічыць сваё жыццё шчаслівым, значыць – гэта жыхарка замежжа ці Ала Пугачова. Спадары журналісты! Калі ў нашай краіне мала шчаслівых жанчын, часцей паказвайце нам на прыкладах, што нам рабіць, каб такімі стаць!

*А.Аўтушка
Старшыня Барысаўскай жаночай сацыяльнай арганізацыі "Правінцыя"*

# Гіне царква

Даўно прайшоў той час, калі зневажаліся і вынішчаліся цэрквы і касцёлы. За апошнія дзесяць год на Барысаўшчыне шмат дзе распачата будоўля новых храмаў. Тым больш дзіўным і незразумелым з'яўляецца тое, што сярод старых бажніц, з якіх да нашага часу здолелі захавацца толькі адзінкі, толькі частка вяртаецца да жыцця. Астатнія храмы працягваюць паступова гінуць. Адна з цэркваў, якая знікае літаральна на вачах, знаходзіцца ў вёсцы Замошша.

Бажніца ў Замошшы з'яўляецца найбольш старой з драўляных цэркваў у нашым краі па-за межамі Барысава. Дакладны час яе пабудовы невядомы. Але стыль царквы гаворыць аб тым, што ўзведзена яна была не пазней XVIII - пачатку XIX стагоддзя. Знаходзіцца царква на могілках і ў старыя часы была прыпісана да прыхадской царквы ў Кіміі. Будавалася яна як уніяцкая. У 1839 годзе з касаваннем уніі на Беларусі яна была пераведзена ў праваслаўе.

Зараз царква моцна нахілілася, сцены месцамі спарахнелі настолькі, што ад іх амаль нічога не засталося. У дадатак да ўсяго хтосьці спрабаваў падпаліць знявечаны будынак. Зараз былы храм ужо нішто не зможа выратаваць. Але яшчэ нядаўна ўсё магло быць інакш.

Будынак царквы ў Замошшы не адзіны ў нашым краі храм, які перажыў эпоху ваяўнічага атэізму, але не здолеў перажыць наш час. А тым часам закладваюцца, але не заўсёды будуюцца новыя цэрквы.

*А.Барэвіч*



Выгляд царквы на пачатку 90-х гадоў





Сучасны стан царквы


1999г. Аварыя ў раёне аўтавакзала

*У Барысаве ўвесь час штосьці адбываецца. Здольнасць апынуцца ў патрэбны час у патрэбным месцы - важная рыса любога прафесійнага фатографа*






# Кавалкі жыцця



Час ад часу мы бярэм у рукі невялікую чорную ці серабрыстую скрынку і з яе дапамогай спыняем час, вырываючы кавалкі жыцця. Паперкі, з дапамогай якіх мы потым захоўваем здабытыя імгненні ўласнага лёсу, мы будзем называць фотаздымкамі.

Большасць з нас выкарыстоўвае цуд фатаграфіі даволі прымітыўна, стараючыся пакінуць патомкам як мага больш выяў з адлюстраваннем сябе, каханага, і ўсяго, што знаходзіцца ў радыусе дзесяці метраў.

Але існуе адмысловая каста паляўнічых за больш рэдкімі, незвычайнымі кавалкамі жыцця. Гэта прафесійныя фатографы.

Адным з найбольш вядомых з іх у Барысаве з'яўляецца Аляксандр Зенькоў. Як і чаму ён робіць гэта? Як кажа ён сам, яму не прыйшлося выбіраць фатаграфію ў якасці прафесіі, яна выбрала яго сама. Ён не марыў з дзяцінства аб фота і імкнуўся атрымаць адпаведную адукацыю. Проста здымаў. Магчыма таму, што ён лепш многіх ведае сакрэты фатаграфіі. Дэвіз яго жыцця: - ніколі не вяртацца туды, адкуль зышоў.

- Сёння фатаграфія - у першую чаргу, спосаб зарабляць на жыццё, і толькі потым нешта для душы. Але вельмі хочацца, каб было наадварот,- кажа Аляксандр.

Мы папрасілі фатографа даць некалькі парад чытачам з вобласці якаснага мастацкага фота.

- З часам, калі шмат фатаграфуеш, націскаеш на кнопку і разумееш, атрымаецца кадр ці не. Тым, хто пачынае, магу прапанаваць тры асноўныя запаветы добрага фота. Першае - памятаць, што ў руках не каробка, а фотаапарат. Другое - думаць. Трэцяе - таксама думаць.

*С.Нялюбін*



*Вакол нас шмат усяго цікавага. Трэба толькі ўмець бачыць гэта*





# Зладзеі ў горадзе

У нашым горадзе з'явіліся зладзеі - вынішчальнікі былой культуры. Яны непрыкметна, але вельмі мэтанакіравана разбураюць тое, што існавала ўжо шмат год, да чаго прывыклі нашыя вочы і сэрца, наша багацце, якое стваралася нашымі продкамі...

Пачалося гэта даволі даўно. Ва ўсе часы вынішчальнікаў асабліва кранала група цагляных дамоў на вул. Дзяржынскага, ну проста мазоліла вочы! Яна стала аб"ектам галоўных практыкаванняў па вынішчэнню культуры. Для пачатку ў будынкаў засыпалі вялікія арачныя падвалы, потым сталі рабіць розныя "ўдасканаленні" ў выглядзе закладзеных цэглай акон, прабітых новых дзвярэй і замураваных старых... - такім чынам усё далей адыходзячы ад першапачатковага выгляду. Потым ад іх акуратна адбілі балконы, так непрыкметна, што гэтая "невыпадковасць" не ўскалыхнула розуму амаль ніводнага барысаўца, быццам гэта такая вось справа - адбіваць у будынкаў балконы (добра, што хоць не каму на галаву). Нашая дзяржава, трэба адзначыць, яшчэ з першых дзён запрыкмеціла нешта няладнае ў гэтых зладзействах і, каб захаваць помнікі архітэктуры прымацавала на іх прыгожыя шыльдачкі. Вельмі прыгожыя, я думаю будынкі засталіся вельмі даволеныя імі. Напэўна, многія будынкі ў горадзе згадзіліся б згубіць пару акон і дзвярэй дзеля такой прыгожай шыльдачкі...

І ў той час, калі здавалася, што ўсё самае дрэннае ззаду - адбылося нешта жахлівае! Самы сапраўдны кашмар! Вы мне напэўна не паверыце, але гэтыя шыльдачкі не спынілі разбуральнікаў! Зладзеі працягвалі сваю дзейнасць. Мала таго, да іх далучыліся яшчэ законы прыроды! Дажджы, бактэрыі і вецер, не звяртаючы аніякай увагі на ШЫЛЬДАЧКУ, пачалі падточваць сцены і разломваць іх. А нейкі "нелюдзь" дайшоў да таго, што ўвогуле ўзяў і замаляваў адну з такіх шыльдачак (раённая санстанцыя). Ад такой усеагульнай нахабнасці у дзяржавы і рукі апусціліся.

Пасля таго як нейкі злыдзень адарваў ад былога ваенкамата ліст шыферу, ды павыдзіраў з яго вокны, здалося, што ўсё прыціхла, але ненадоўга.

А што ж адбылося з вялізнымі драўлянымі варотамі на былой пажарнай станцыі, кованымі варотамі, якімі зачынялі ўваход у двор праз вялізныя аркі (цяпер закладзеныя цэглай) у будынку каля пошты?

Няўжо ўсё гэта застанецца без увагі? Думаю - не. Прыйдзе час, і злодзеі адкажуць за ўсё.

*У.Гадун*





① *Ражноўскае вадасховішча ў польскіх Карпатах - папулярнае меца адпачынку*

② *Замак у Баранаве Сандамірскім, 1578-1606г.г.*

③ *Прадгор`е Карпат паміж Кракавым і Чаньстахава - цікавы рэгіён, які карыстаецца вялікім поспехам у турыстаў*

④ *Чаньстахава - цэнтр паломніцтва каталікаў Польшчы*

⑤ *Сандамір - адзін са старых польскіх гарадоў на Вісле*

⑥ *Праваслаўны манастыр у Супраслі - унікальны помнік беларускай архітэктуры Беласточчыны*

# Іх выбар і нашы ўражанні

*Газета "Гоман Барысаўшчыны" пастаянна знаёміць сваіх чытачоў з магчымасцямі і найлепшымі маршрутамі велавандровак па Беларусі і сумежных краінах. У гэтым нумары мы распавядзем вам аб сёлетняй паездцы, якую здзейснілі супрацоўнікі нашага выдання.*

Вандроўка ладзілася па ўсходняй, паўднёвай і цэнтральнай частках Польшчы і мела працягласць каля дваццаці дзён. За гэты час было пераадолена больш чым паўтары тысячы кіламетраў. На шляху былі як шматлікія старыя гарады і мястэчкі з непаўторнай архітэктурай гістарычных цэнтраў і ўражваючымі замкамі, так і нярэдкія цікавыя прыродныя помнікі, адметныя мясціны, якіх асабліва шмат у гарах і прадгор'і. Але сёння хацелася б распавесці не пра асаблівасці старажытнага польскага дойлідства і хараство тамтэйшага прыроднага наваколля, а пра ўражанні аб ладзе жыцця нашых заходніх суседзяў і яго адрозненнях ад нашага.

Безумоўна, істотна адрозніваецца ад тутэйшых аблічча польскіх гарадоў. Там паўсюдна моцна адчуваецца павага да традыцый. Яна праяўляецца ў захаванні старых цэнтраў гарадоў, пераемнасці ад іх стыляў сучасных будоўляў, пры правядзенні кірмашоў і шмат дзе яшчэ. Нават на рэкламных плакатах тэма традыцыі і пераемнасці з'яўляецца адной з асноўных. Калі якая фірма існуе шмат дзесяцігоддзяў, ці, тым больш, болей за стагоддзе, гэта абавязкова будзе адлюстравана ў яксці адной з асноўных інфармацый аб ёй у любой рэкламе.

Вельмі моцна кантрастуюць з тутэйшымі тамтэйшыя вёскі і невялікія мястэчкі. Маецца адрозненне ў памерах дамоў і іх стане. Але не гэта галоўнае. Там не так часта каля дамоў можна ўбачыць градкі. Усё часцей і часцей нашы заходнія суседзі аддаюць перавагу акуратна скошаным газонам з дэкаратыўнымі народамі дрэў і кустарнікаў. Больш таго, у дварах у якасці дэкаратыўных элементаў акрамя скульптур з дрэва вельмі шмат хто выстаўляе старанна адрэстаўраваныя вазы, макеты студняў - жураўлёў і шматлікія іншыя прадметы і прыстасаванні, без якіх раней не магла абысціся ніводная гаспадарка. Прытым, старыя рэчы вельмі ўдала выкарыстоўваюць не толькі каля прыватных хат, але і ў афармленні наваколляў кавярняў, бараў і ў іншых месцах. За ўсім гэтым маецца старанны дагляд. Паляк за працай з газонакасілкай каля свайго дома - зараз з'яўляецца характэрным рысай тамтэйшага ладу жыцця.

У Польшчы паўсюль адчуваецца атмасфера добразычлівасці. Яна ёсць як у зносінах паміж людзьмі на вуліцы, так і ў крамах і іншых месцах. Асобная тэма для гутаркі - польскія крамы, асабліва супер і гіпермаркеты. Гандлёвая плошча асобных з іх суразмерна, ці нават значна болей плошчы ўсіх гандлёвых прадпрыемстваў Барысаўшчыны. Нярэдка адны стаянкі для аўтамабіляў каля такіх гандлёвых цэнтраў маюць тысячы месцаў, а на дарогах каля іх спецыяльна робяць развязкі. Толькі на абыход паліцаў такіх гіпермаркетаў, якія запоўнены самымі разнастайнымі якаснымі таварамі, патрэбна некалькі гадзін. Дадайце сюды і тое, што кошты там на частку тавараў і прадуктаў блізка да нашых, на асобныя - трошкі болей, на асобныя - трошкі меней. Але нават сярэдняя пенсія ў Польшчы ў некалькі разоў болей, чым сярэдні заробак людзей у нашым краі.

Розніца ва ўзроўні жыцця бачна не толькі на прыкладзе дамоў і крамаў. Гэта і паўсюдныя шыкоўныя аўтасалоны, якія разлічаны не на багатых, а на грамадзян з сярэднім дастаткам. Адваротны бок аўтасалонаў - звалкі старых аўтамабіляў.

Значна разнастайней там радыё і тэлеэфір. Нават на самых "забытых богам" хутарах спадарожнікавыя антэны з'яўляюцца распаўсюджанай рэччу.

Асобна трэба сказаць да стаўлення ў Польшчы да ровараў. На іх ездзяць практычна ўсе - ад дзетак да людзей у сталым узросце. Даводзілася бачыць адну бабулю, якая ходзіць з кульбакай, але шпарка ездзіць на ровары, трымаючы яе ў руках. Вельмі развіты ў Польшчы велатурызм. Нават шмат хто, калі адпраўляецца на адпачынак на аўтамабілі, абавязкова бярэ з сабою ровар. У Польшчы выдаецца вельмі шмат спецыяльных даведнікаў для велатурыстаў. У турыстычных рэгіёнах у гарадах усталёўваюць спецыяльныя шчыты. Трэба адзначыць, што і тамтэйшыя выбар "тэхнікі" для такіх вандровак непараўнальны з нашым. Так, у адной са спецыялізаваных крамаў даводзілася бачыць рэкламу, што ў іх у продажы заўсёды маецца не менш 500 відаў ровараў і 20000 відаў запчастак. І гэта праўда.

Безумоўна, Польшча вельмі неаднародная. Узровень жыцця ў розных рэгіёнах моцна адрозніваецца. Але ў любым выпадку тамтэйшае жыццё вельмі моцна адрозніваецца ад нашай рэчаіснасці. Пра гэта яшчэ шмат чаго можна было б сказаць. Шмат адрозненняў у прыгарадным аўтамабільным і чыгуначным транспартах, інфраструктуры дарог і ў іншых сферах жыцця. Магчыма, да гэтых тэмаў мы яшчэ не раз вернемся.

Польшча не адносіцца да багатых краін Еўропы. Яшчэ нядаўна ўзровень жыцця там нязначна адрозніваўся ад нашага. Але нашы заходнія суседзі зрабілі свой выбар. Зрабілі свой выбар і мы, але...

**М.Мацельскі**







# Парады ад Наталлі

*Паважаныя гаспадыні. Гэты год выдаўся багаты на яблыкі, таму я прапаную вам парадаваць сваіх родных і блізкіх пірагамі з яблыкамі. Рада падзяліцца некалькімі рэцэптамі, якімі карыстаюцца гаспадыні ў другіх краінах свету.*

### Па-берлінску

З аднаго кілаграма яблыкаў прыгатаваць пюрэ (можна нацерці на тарцы), перамяшаць з 2 сталовымі лыжкамі крухмалу, карыцай па смаку і разынкамі. Замясіць цеста з 300г. мукі, 100г. маргарыну,80-90г. цукру, драбку солі,1-2 яек, сталовай лыжкі алкаголю (гарэлка, бальзам, каньяк), раздзяліць яго на дзве няроўныя часткі. Большую частку раскатаць у тонкую аладку з такім разлікам, каб яна пакрывала не толькі дно, але і краі патэльні, роўным слоем пакласці яблыкі. Астатняе цеста таксама раскатаць у аладку, выразаць з яе кружкі, пакласці на яблыкі. Выпякаць у не вельмі гарачай духоўцы. Гатовы пірог заліць растопленым маслам і пасыпаць пудрай з цукру.

### Па-балгарску

Прасеяць 175г. мукі горкай, пасярэдзіне зрабіць ямку, пакласці ў яе 75г. цукру, 1 яйка, ванілін, 75г. масла ці маргарыну, драбок солі. Цеста замясіць. Пакінуць на 15-20 хвілін, затым раскатаць у пласт і пакласці ў патэльню так, каб ён пакрываў не толькі дно, але і краі. Зверху пакласці 1кг тушаных ці сырых яблыкаў, пасыпаць разынкі. Выпякаць у не вельмі гарачай духоўцы. З 1/4 літра яблычнага соку і жэлаціну прыгатаваць жэле, заліць ім спечаны пірог.

### Па-дацку

Расцерці ў густую пену 250г. маргарыну і 200г. цукру і драбок солі, дабавіць па аднаму 3 жаўткі, нацёртую на тарцы шкурку лімона ці апельсіна, 2 чайныя лыжкі алкаголю (гарэлка, бальзам, каньяк), 250г. мукі. Замясіць цеста. Бялкі, што засталіся, узбіць у густую пену, выкласці ў змазаны маслам посуд, пакласці паверх бялкоў роўным слоем цеста, пакрыць тонкімі лустачкамі яблыкаў (750г.), пасыпаць ванільным цукрам і патоўчаным міндалём. Выпякаць у не вельмі гарачай духоўцы. Пры жаданні гатовы пірог можна заліць растопленым маслам.

### Па-французску

Развесці 20г. дражджэй і 125г. малака. Замясіць цеста з 300г. мукі, 75г. цукру, 65г. маргарыну, драбка солі, нацёртай на тарцы шкуркі 1 лімона ці апельсіна і малака з дражджамі. Зрабіць з цеста шар, накрыць сурвэткай і пакінуць у цёплым месцы. За гэты час нарэзаць тонкімі лустачкамі ці нацерці на тарцы 1кг яблыкаў, дабавіць карыцы, разынак, усё перамяшаць. Цеста, якое падышло, раскатаць, перакласці ў посуд, пакрыць яблыкамі, заліць ахаладжаным крэмам. Выпякаць у не вельмі гарачай духоўцы. Крэм рыхтуецца наступным чынам. Бесперапынна перамешваючы, загусціць 250г. смятаны і 50г. крухмалу, дабавіць 2 яйкі. Спечаны пірог паліць растопленым маслам.

*Прыемнага апетыту вам і вашым сямейнікам!*

*Наша гасцёўня*

Л. Пятрова

### Птушка без неба

**Паветра вясною дыхае,**
**Зямля адтае, жыве.**
**Ручай між кустоў усхліпвае.**
**Даль неба мяне заве.**

**Я ж зараз - птушка падбітая,**
**Хачу ўзляцець, хоць плач!**
**Крыламі ўзмахну... Спавітая,**
**Балюча шапчу: "Прабач!"**

**Блакіт з аксамітным водблескам**
**Ад сонейка ўсё ярчэй.**
**З адным крылом, нібы вобмацкам,**
**Не лятаць, а хадзіць шпарчэй.**

**Надзея жыве! Боль знікне.**
**На ўзлёт раўнавага ёсць.**
**Я зноў у птушыным ліку**
**Свая, а не птушка-госць.**

**Праз лета з любоўю шчырай**
**Ад родных сваіх краёў**
**Змагу паляцець у выраі,**
**Каб ўвесну вярнуцца зноў.**

**Я там, на далёкім поўдні,**
**Распавядаць бяруся -**
**Жывой дабрыней чароўнай**
**Прасякнута Беларусь!**

1999г.

# Крыжаванкі

***Крыжаванка складзена па матэрыялах гэтага нумара***

**Па гарызанталі:** 1 - тутэйшы гурт; 2 - вёска на Барысаўшчыне; 3 - тутэйшы гурт; 4 - тутэйшы гурт; 5 - вёска на Барысаўшчыне; 6 - вёска на Барысаўшчыне; 7 - футбольная каманда; 8 - фестываль бардаўскай песні; 9 - - вёска на Барысаўшчыне; 10 - вёска на Барысаўшчыне; 11 - вёска на Барысаўшчыне; 12 - вёска на Барысаўшчыне ў XVIII ст.






Мал. Л.Гадуна

**Адказы на крыжаванку**, што змешчана ў "ГБ" № 8(17): 1 - Казімірава; 2 - Хрост; 3 - Стрыгалёў; 4 - Гаеўскі; 5 - Маракоў; 6 - Карсакавічы; 7 - Купала; 8 - Зіненка; 9 - Чарневічы; 10 - Печы; 11 - Чэрнеўка; 12 - Лядзішчы.

## Лічбавая крыжаванка

Ніжэй прыведзены пералікі лічбаў, якія згрупіраваны па іх колькасці. Вам неабходна падабраць і запісаць у незафарбаваныя радкі і слупкі лічбы такім чынам, каб супалі іх усе перасячэнні.

**6:** 120332, 133527, 172578, 815171, 834531. 840572, 842752, 852733.

**5:** 12274, 12447, 12479, 17232, 22341, 22449, 23274, 23776, 24332, 25347, 26547, 41471, 42201, 43243, 43427, 43453, 82377, 83648, 83742

**4:** 2232, 2235, 2452, 2720, 5020, 5235, 5245,7120,

**3:** 123, 143, 229, 261, 263, 271, 273, 295, 343, 344, 347, 477, 485,493, 519, 521, 547, 584, 927, 993.



***Адказ на крыжаванку надрукаваную ў мінулым нумары:***



## Японская крыжаванка

Вашай увазе прапануецца японская крыжаванка. У ёй неабходна адгадаць не словы ці размяшчэнне лічбаў, а выяву. Яна атрымліваецца на падставе аналізу лічбаў, што прастаўлены злева ад радкоў і над слупкамі. Лічбы паказваюць, колькі груп чорных клетак знаходзяцца ў адпаведным радку або слупку і колькі суседніх чорных клетак утрымлівае кожная група. Напрыклад, лічбы 1, 4 і 2 азначаюць, што ў гэтым радку ёсць тры групы чорных клетак, якія складаюцца: першая - з адной, другая - з чатырох, трэцяя з двух чорных клетак. Групы падзелены паміж сабою не менш чым адной пустой клеткай. Пустыя клеткі могуць быць і па краях поля.

Паспрабуйце высветліць якая выява зашыфравана ў наступнай крыжаванцы. ➤



***Адказ на крыжаванку надрукаваную ў прошлым нумары:***



## Ці ведаеце вы, што...

Паветраныя патокі, якія ўзыходзяць падчас летняй спёкі, могуць дасягаць вялікай моцы. Так, у жніўні 1950 года падчас практычных заняткаў парашутыстаў каля Барысава два спартсмены былі падхоплены магутным узыходзячым патокам і замест зніжэння пачалі падымацца ў зону магутнай кучавой хмарнасці. Адзін з парашутыстаў змог прызямліцца праз 40 хвілін на адлегласці каля васьмі кіламетраў ад месца старту. Другі спартсмен падняўся на вышыню 1400 - 1500 метраў і прызямліўся толькі праз дзве гадзіны на адлегласці ў 14 кіламетраў.

## Забытыя гульні

### "Краскі"

Сярод адной з самых папулярных у дзяцінстве нашых бацькоў была гульня ў краскі.

Для гульні патрэбна не менш 5 чалавек. Чым больш - тым лепш. Перад гульнёй яны прачэрчваюць на зямлі 2 рысы (прыкладна ў 10-20 метрах адна ад адной). Потым выбіраюць вядучага - "чорта". Цішком ад яго дамаўляюцца, хто якой краскай называецца і ўсаджваюцца на доўгую лаўку або становяцца ў шарэнгу па першай рысе. "Чорт" падыходзіць да іх і гаворыць:

- Я чорт з рагамі,
З гарачымі ланцугамі,
У жудаснай масцы,
Шукаю чырвоную (або іншы колер) краску!

Калі такой краскай ніхто не называўся, то "чорту" адказвалі: "Бяжы адсюль, няма такой краскі!" Калі такая краска ёсць, гулец, які назваў сябе адгаданаю краскай, бяжыць да другой рысы, а "чорт" ловіць яго. Калі зловіць - мяняецца з ім гульнёвай роляю.

*У.Гадун*

ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ

**Рэгістрацыйны нумар 595**

**Заснавальнікі: І.Белы, У.Буйко, У.Дубаневіч, М.Мацельскі, М.Пучыла.**

**Рэдактар М.Мацельскі**

**Юрыдычны адрас рэдакцыі: г. Барысаў, 1-ы зав. К.Лібкнехта, 1**

**Наклад 2000 паасобнікаў**

**Падпісана ў друк 22.00 27.04.2000 г.**
**Замова №**
**Друкарня імя 1-га Мая**
**г. Барысаў, вул. Будаўнікоў, 33**

***Адрас для пісьмаў: 222120, Барысаў-1, а/с 43***